




№ 1

# ВЫБРАНЫЯ ВЕРШЫ



М. ЧАРОТ

№ 1 ◆ КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“ ◆ № 1

МІХАСЬ ЧАРОТ

# ВЫБРАНЫЯ ВЕРШЫ

Выданьне ЦБ „Маладняка“.
МЕНСК—1925

# МАЛАДНЯК

Тут учора бура выла нам,
Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток,—
Стары бор з карэньнем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца—вір агню...
Буралом спаліла з гольлямі!..
Зьніклі хмары... і пад чырваньню
Ўсе прасторы сталі голымі.

А сягоньня—чутны водгукі
—Нам расьці—дык мала дня!
Толькі тут узьняцца мог такі
Волат лес—наш Маладняк.

Стройны лес і горды выглядам,
Нібы раць, што мкнецца ў бой,
Яго шум—што голас: „выедам
Пастаяць за праўду галавой“.

Маладняк сваімі лісьцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі коньніцу.

Перастаў і сумны сьпеў гусьці
Дні прышлі—ажно ня верыцца...
Хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
З сілай моладзі памерацца.

**24 сакавіка 1923 г.**

## ЗАРУНЕЛА, ЗАРУНЕЛА...

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
На палёх здратованых, прыбітых
Паглядзі!.. Вясну радзіла восень.

Маладняк зялёны бач кудравіць
Ахіляе край яскравым лісьцем...
Аб здабытай вольнасьці і славе
Маладняк шапоча ў песьні-сьвісьце.

Зарунела, зарунела аксамітам
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
Паглядзі!.. Над краем ужо зьвіты
Промені—жытнёвыя калосьсі.

Барацьбой гартованы, распраўай...
На прастор, у сінь прыгожа выйсьці...
Аб здабытай вольнасьці і славе
Маладняк шапоча ў песьні-сьвісьце.

## ПЛЫВЁМ К ПРЫГОЖА-СЬВЕТЛАЙ ДАЛІ

Плывём к прыгожа-сьветлай далі...
На хвалях вогненнага мора...
А полымя ўсё плавіць, плавіць.—
Палёў абшары, лес і горы...
Плывём к прыгожа-сьветлай далі...

На хвалях вогненнага мора
Плыве наш човен... бура стогне...
Дзе мы змагаліся учора,
Жыцьцё спакойна там сягоньня.
На хвалях вогненнага мора.

Плыве наш човен... бура стогне...
Відаць маяк—агонь дзяньніцы,
І золак дня туман разгоніць...
У новую жыцьця сьвятліцу.
Плыве наш човен... бура стогне...

Відаць маяк—агонь дзяньніцы...
Плывём к прыгожа-сьветлай далі
Дзень хутка новы заіскрыцца,
Зямлю ўсю полымя расплавіць...
Відаць маяк—агонь дзяньніцы.

Плывём к прыгожа-сьветлай далі
У полымі,—бяз ветру й вёслаў...
На прыстані мы пагуляем,
Сусьветная як прыдзе восень...
Цяпер—к прыгожа-сьветлай далі!

**25 Лістапада 22 г.**

## ПОЛЕ ЦІХА ШАПТАЛА КОЛОСЬСЕМ

*Ц. Гартнаму*

Поле ціха шаптала калосьсем
Як находзіла ворагаў раць.
Гэта ты у чырвоную восень
Сонны край свой пачаў вартаваць.

На шляху, на прыбітым гасьцінцы
На здратованых коньмі палёх.—
Гучны кліч твой, як водблеск зарніцы
Адгалоскам жывучым разьлёг...

Кургану не пяяліся песьні,—
Кім насыпаны, хто там ляжыць,—
У зямлі, спачываць ім ня цесна
Не гнятуць іх гнілыя крыжы.

Ты вярбою шумеў пры дарозе
Гольлем вабячы неба блакіт,
Да тых гоняй хіліўся бярозай,
Дзе прастор быў крывёю заліт.

[redacted]

Шмат разоў ты у полымі жыцьця
Захліпнуцца зьбіраўся бяз сьлёз,
Калі вецер пажоўкшае лісьце
Па загонах спустошаных нёс.

І на хвалях вады ружаватай
Човен твой пераплыў ужо мель.
Разагнаў ты штандарам узьнятым
Над балотам туманную бель.

[redacted]

# КОМСАМОЛІЯ

## 1.

Вёска дрэмле... Вечар ліпнёвы...
Толькі вуліцы звонкі сьмех...
У лапці абуты з ліп новых
Едуць яны на начлег.

Сьвіткі зрэбны... палатаны...
Але хлопцы--проста душа!
Гора бачылі шмат яны...
—Гэй, паганяй! Шырай шаг!

І заляскалі коняй капыты,
Дароґу друкуе сто ног...
Месяц плача хмаркай закрыты—
Угнацца за імі ня мог.

Вось паляна—коньмі стрыножана...
Вогнішча! Песьні! Сьмех!
Толькі лес шэпча трывожна
Дзіўны сказ пра новы начлег.

## 2.

Ночка. ночка... Цёмна, нявесела...
Вые на выгане воўк—
Гэтай ночкай паўстанца павесілі,—
Разудалы сьпеў вёскі змоўк.

Загарэліся хлопцы помстаю:
Калі гэтак—адплата ня грэх!
Хто з касой, хто з сякерай востраю
Вышлі ў пушчу на новы начлег.

Звоніць пушча зноў разудалымі,
Зноў шугае на вогнішчы корч,
Калі трэба, то раз!—ударым мы!
Ты маўчы, чорнавокая ноч!..

Дні мінулі—хлопцам весела!
Вышлі з лесу—іх ня стрымаць!
—Сягоньня паўстанцы вешалі,
Сягоньня на волі іх рацць!

3.

І яны, яны комсамольцы.
Ім ня страшна адкрытая сьмерць,
Іх аружжа выстралам моліцца,
Кліч іх гучны—наўкола глядзець!

І у полі пад градам шрапнэлі.
Захіліўшы ў чырвоны сьцяг,
Марш хаўтурны ня раз ім пелі
І хавалі пад звон —„тра—ра—рах!“

Тагды раць іх спраўляла трызну
Набіралася сьмеласьці, сіл...
Комсамолію—вольну айчыну
Ня спужаць мільёны магіл.

Комсамолец—запалены гартам,
Комсамолец—бунтарскі дух,—
Адзін кліч—стане новая варта,
Адзін кліч толькі—„Зьмену рыхтуй“.

4.

І расьце, і расьце і мужае
Комсамольцаў адважная раць.
Што ім вораг? Што і мяжа ім,
Як захочуць яны пагуляць!

На заводах, на фабрыках дымных,
Дзе палёў сінявокі простор.—
Яны злучаны палкім уздымам,
Іх злучае юнацкі задор.

Толькі кліч—і за шэрагам шэраг,
Нібы мора прыбоямі хваль,
Яны змыюць мяжуючы бераг,—
Вольным сьпевам запеніцца даль.

Ня стрымаць, ня спыніць ў падарожжы
Хто агнём гэтай сілы сагрэт...
Пабядзіць дух паўстанчаскі зможа
Комсамолец бунтар і поэт!

5.

Вёскі сьпеў... Шумы гораду...
Вуліц вясёлы звонкі сьмех...
Успамінаюць сягоньня горда
Комсамольцы мінулы начлег.

З маршам ўдаль!.. Бач, здаволены!..
--Гэй, не адстань! Шы-рай шаг!..
Песьню! Плакаць даволі нам!
Комсамольцы- хлопцы душа!..

Сьвіткі зрэбны... палатаны...
Фабрычнага дыму пах...
Гора бачылі шмат яны.
І цяпер ім змагацца-- ня страх!

Ня жыцьцё- а раздольле!..
Бо дзеці паўстаўшых краін...
Беларусь! і ты Комсамолія!
Я. комсамолец,--твой сын!..

## ЧЫРВОНЫЯ ВЯСЬНЯНКІ

### 1.

Зазьвінелі рэчкі крыгамі;
Сонца чэрпае променем лужы.
Калёсамі вуліца скрыгае...
Жураўлі па-над вёскаю кружаць.

Прывіталі высь блакітную
Сьпевы жаўрыка у белым тумане.
Балота пушыцца ракітаю;
Лес шуміць, спатыкаючы раньне.

Сенажаць прайсьці прыгожа нам,—
Паміж зелені выплылі кветкі...
Каровамі выган стрыножаны,
Рвуць рагамі куп'ё пералеткі.

Зашумела поле хвалямі,
Мітусеньнем выплыўшай руні...
Вясну закліканьнем хвалім мы.
Не змаўкаюць гучлівыя струны.

## 2.

Паглядзі: на полі вораным
Сьлед праложан калясом.
Селянін ідзе ня змораным—
Корміць глебу ён аўсом.

І з сяўні за жменяй жменяю...
Шум насеньня, як дажджа.
Хоць загон блішчыць каменьнямі,
Верыць—будзе ураджай.

Ён палетак свой узораны
Барануе, рве дзірван.
За канём ідзе разораю.
Над сваёю працай пан.

Яго шнур спавіт быў межамі.
На чужынца пот ён ліў.—
Цяпер з думкай вольнай, сьвежаю
Ходзіць з песьняй па ральлі.

[redacted]

3.

Заводаў грук і гучны гоман
Пранёсься з ветрам па палёх.
Залом тут болей не заломан...
Дым фабрык коўдраю разьлёг.

Імчыцца раць сталёвых коняй.
Капыт-калёс чуваць іх звон!
Араты, не ўзараўшы гоняй,
Глядзіць, вачам ня верыць ён.

Жывыя коні рзуць у полі,
Пужліва вушы узьнялі,
Нібы спазналі ўсе, што болей
Сталёвых коняй на зямлі.

Гудзе гудок. Паўзуць машыны
У шыр і даль палёў, балот.
І людзі ў новую краіну
Сягоньня робяць пералёт.

## 4.

Змрокам ціхім сьпеў салаўіны...
Гай шапоча кустам альховым...
Ён прыехаў—рыцар машыны—
Кахацца з дзяўчынай вясковай.

Посьле кросен з беленькім тварам...
Спадабае хлопец рабочы...
Сэрца спуджана лічыць удары.
Паўнюткі агню яе вочы.

Прыхіліўшыся к грудзям кажа
Ён дзяўчыне слодачы словы,
Доўгіх косаў злотная пража
Спавіла іх разам галовы.

Зазьвінела даль адгалосам,
Сьпевам гучным аб новым шчасьці.
Срэбны конь па небу пранёсься,
На зямлю ён хоча упасьці.

Сакавік, 23 г.

## ЗЯМЛЮ ЦАЛУЕ НЕБА СІНЬ

Зямлю цалуе неба сінь
Сваім чырвоным сонцатварам
І песьню ночы „ква-кум-бінь“
Пяюць мне сонныя выгары.

У высі зорак сенажаць
Вартуе месяц—дзед двурогі,
Ня хоча раніцу спаткаць
І лесам хмар ідзе бязногі.

Капліца белая, як здань,
Ў тумане плавае за вёскай,
І сонцам спужаная рань
Прысела зайцам за бярозку.

Дзяньніцы зірк на небе стух,
Вясковых хат дымяць галовы,
У лапцях з пугаю пастух
Трубою плача на каровы.

Пяе у полі хор калёс,
Як старац з ліраю разьбітай...
Загоны вузкія авёс
Убраў зялёным аксамітам.

Вясёлы птушак пераззон
Гудзе на воблачнай званіцы...
Бязмоўнай цішы гіне сон,
Як сонца выплыве крыніцай.

І сыпле промень вогнясталь
К вачом схілю сярпом далонь я —
І пазіраю моўчкі ў даль
У шыр блакітнага бяздоньня.

14 мая 1922.

## ЛЕНІНАМАЙСКАЕ

Май басаногі хлопчык Валодзя
Песьні слухае Волгі шырокай.
Май—Ленін на дымным заводзе
На трыбуне з прыжмураным вокам.

Вечны Май... У чырвоным убраньні.
У вачох акіян срэбрасіні...
Ён сягоньня жалобай паранены,
Вэльмам чорным над ім навіс іней...

Песьня-плач, песьня-кліч вызваленьня
Увесь сьвет зачаруе сягоньня...
І памоляцца зноў перад Леніным
Вольны скіф і нявольнік колёній...

Май цяпла закалосяцца нівы.
Май сьвятла—сонца грае ў палёх...
Я сягоньня шчасьлівы, шчасьлівы,
Што па сьвету Май песьняй разьлёг.

Слухай, Май! Вясны ты любоўнік.
Тэй вясны, што з чырвонай травы...
Паміж сьцягамі Леніна помнік,
Мне, здаецца, што Ленін жывы.

Мне, здаецца,—з драўлянай трыбуны
Ён на захад кіўнуў галавою...
На загонах там ветрана-буйных
Вольны Май задажджыўся крывёю...

Погляд Леніна ловяць мільёны.
Погляд Леніна маёва-прамністы...
А там... хмары скудлачаным лёнам
Над Нёмнам навісьлі імглістым.

Май у пушчы заросшай чуць звоніцца,—
То паўстанцкай зямлі пакаленьне...
Там... у кожным промені сонца
Ловяць погляд няўмёршага Леніна.

Май шапоча сьцягамі-лісьцем
Аб краіне квяцістай і вольнай...
Нёман гойсае, нібы ў калысцы,
І таксама пяе аб раздольлі...

А тут... паміж хваляў маёвых
Я на Леніна помнік глядзеў...
Мне, здаецца, вось-вось скажа словы
Шматмільённай сваёй грамадзе...

Ён жыве—адгаласам няслося—
Будзе жыць сонцавеючым Маем.
Бо Май і Кастрычнік увосень
Памяць вечна аб ім уздымае.

Май—басаногі хлопчык Валодзя
Слухае песьні Волгі шырокай,
Май—Ленін на дымным заводзе
На трыбуне з прыжмураным вокам.

# СЕНАЖАЦІ І ПОЛІ АСЬНЕЖАНЫ

Сенажаці і полі асьнежаны,
Рэкі высланы гладкім памостам.
Воўк з гушчару дарогай няежджанай
Бяжыць к вёсцы няпрошаным госьцем.

Лес у шлюбным адзеньні, а хмурыцца,
Ня вітае ён песьнямі раньня...
А ў вёсках завеены вуліцы,
Ў мяккіх гурбах купаюцца сані.

Сівалапы гуляе пад вокнамі.
Пазірае хаціне у вочы.—
Толькі ўпоўдзень, часамі, замоўкне ён,
А як вечар—у шыбы стукоча.

Дзеці пальцамі шыбы з вузорамі
Размалёўваюць, тулячы плечы.
Згорнуць ў жменю сьняжыначкі-зоры
І бягуць пасмактаць у запечча.

Ноччу печ засьпявае ім комінам,
Сон салодкі ў пасьцелі ім сьніцца.
Што ў садку яны з крыкам і гоманам
На сіле ловяць гуртам сініцу.

25 лістапада 1922 г.

## ЗАСЬПЯВАЙ БЫЛЬЛЁМ, МЯЖА...

Сьпі, сыночак, вечар блізка —
Мне палоску трэба жаць.
Вецер, гушкай ты калыску,
Засьпявай быльлём мяжа.

Шчэ ня час спачыць ад працы,
Хоць ад поту твар мой змок,
Буду з мілым забаўляцца,
Як зямлю агорне змрок.

Сьпі, саколік, мой прыгожы,
Ой як цяжка, цяжка мне...
Тваёй маме хто паможа,
Што адна палоску жне!

Тата твой ваюе з панам,
Каб няволі больш ня знаць...
Вырасьцеш ты стройным станам—
Пойдзеш сам у Чырвону Раць.

[redacted]

Сьпі, мой коцік, закрый вочкі,—
Больш люляць ня маю сіл...
Дзень бяжыць, і хутка ночка...
Зоркі сеюць небасхіл.

Вецер, гушкай ты калыску,
Засьпявай быльлём мяжа.
Сьпі, сыночак, вечар блізка—
Мне палоску трэба жаць...

# БАЛОТАМ СЬНЕЖНЫМ ПРАЗ САСОНЬНІК

Балотам сьнежным праз сасоньнік,
Які смалёвым пахам вабіць,
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць.

Люблю, як кусьцік нізкаваслы,
Калі з саней назад пагляпеш,
Нібы, адкінуўшы ён вёслы
Плыве на белым акіяне.

Пакуты стог люблю аб‘ехаць,
Сьляды наўкол зрабіць палозьзем,
І сена выскубнуўшы вехаць,
Люблю раськідаць па дарозе.

Люблю, як санкі мчацца з плачам
Пісклявы гымн зіме заводзяць,
А конь падкуты чортам скача,
Нібы па шкле, па гладкім лёдзе.

Люблю закутацца кажухам
Згайсаць ад меж да меж краіну
І крыкнуць гучна завірухам,
Што ў хвалях белых не загіну.

І зноў ляцець... Дуга хай звоніць,
Пакуль конь лейцы не аслабіць...
Прастор балот зімою соннай
Люблю санямі разухабіць...

25 сьнежня 1922 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Кнігі таго-ж аўтара:

1. Завіруха—**вершы**—1922 г.
2. Босыя на вогнішчы—**поэма,** 2 выд. 1925 г.
3. Веснаход—**апавяданьні**—1924 г.
4. Сьвінапас—**повесьць** (друкуецца).
5. Зборнік сцэнічных твораў (рыхтуецца да друку).

---

## КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“

ЦБ Усебеларускага Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў Маладняк выдае літаратурна-мастацкія зборнікі (вершы, апавяданьні, крытыка) разьмерам ад аднаго да двух друкаваных аркушаў.

Зборнікі прадаюцца ўва ўсіх лепшых кнігарнях і кіосках Беларусі, а таксама на галоўных станцыях чыгунак, якія праходзяць цераз БССР.

У траўні месяцы 1925 г. вышлі:

1. **Міхась Чарот**—Выбраныя вершы.
2. **Ул. Дубоўка**—Там, дзе кіпарысы (*поэма*).
3. **Кузьма Чорны**—апавяданьні.
4. **Адам Бабарэка**—апавяданьні.
5. **Язэп Пушча**—Раніца рыкае (*вершы*).
6. **Крапіва**—Асьцё (*сатыры*).
7. **Маладняк — Янку Купалу** (юбілейны зборнік).

У чэрвені выйдзе 7 наступных зборнікаў, а ў ліпені 6.

---

